


З першых дзён навучальнага года вучні бельскіх школ працуюць над упрыгожваннем свайго горада. Усе дзеці па чарзе ходзяць палоць гарадскія клумбы. На здымку — пры працы шосты клас Зборнай гміннай школы ў Бельску. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 38 (1101) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 17.IX.1978 г.

## ДА 150-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ



Леў Талстой з унукам.

### ЛЕЎ І МЫШ

Леў спаў. Мыш прабегла яму па целе. Ён прачнуўся і злавіў яе. Мыш пачала прасіцца, яна сказала: „Пусціш — і я табе памагу". Леў засмяяўся, што Мыш абяцае яму дапамогу, і пусціў яе.

Потым паляўнічыя злавілі Льва і прывязалі вяроўкай да дрэва. Мыш пачула львіны роў, прыбегла, перагрызла вяроўку і сказала: „Памятаеш, ты смяяўся — не думаў, што ад мяне прыйдзе адплата, а цяпер бачыш — прыдалася мышыная дапамога".

### БАЦЬКА І СЫНЫ

Бацька загадаў сынам, каб жылі ў згодзе, а яны не слухаліся. Дык ён загадаў прынесці венік і кажа:

— Зламайце!

Колькі ні стараліся, не маглі зламаць. Тады бацька развязаў венік і загадаў ламаць па галінцы. Яны паламалі.

Бацька і кажа:

— Так і вы: калі ў згодзе жыць будзеце, ніхто вас не асіліць; а калі будзеце сварыцца ды ўсё паасобку, вас кожны лёгка пакалечыць".

### ДВА ТАВАРЫШЫ

Ішлі па лесе два таварышы, і выскачыў на іх мядзведзь. Адзін кінуўся бегчы, узлез на дрэва і схаваўся, а другі застаўся на дарозе. Што яму было рабіць; ён упаў вобзем і прыкінуўся мёртвым.

Мядзведзь падышоў да яго і пачаў нюхаць: той і дыхаць перастаў.

Мядзведзь панюхаў яму твар, падумаў, што мёртвы, і пайшоў.

Калі мядзведзь адышоў, той злез з дрэва і смяецца:

— Ну, што табе мядзведзь на вуха казаў?

— А ён мне сказаў, што дрэнныя тыя людзі, што сваіх таварышаў у бядзе пакідаюць.

### ДУБ І АРЭШНІК

Стары Дуб скінуў з сябе жолуд пад куст Арэшніка. Арэшнік сказаў Дубу:

— Ці ж мала месца пад сваімі галінамі? Ты кідай свае жалуды на вольнае месца. Тут мне і самому цесна для маіх адросткаў, і я не кідаю на зямлю сваіх арэхаў, а аддаю іх людзям.

— Я жыву 200 год, — сказаў на гэта Дуб, — і дубок з гэтага жолуда пражыве столькі ж.

Тады Арэшнік раззлаваўся і сказаў:

— Дык я заглушу твой дубок, і ён не пражыве і трох дзён.

Дуб нічога не сказаў, а загадаў свайму сынку расці з жолуда.

Жолуд намок, лопнуў і ўчапіўся кручком парастка за зямлю, а другі парастак пусціў уверх.

Арэшнік глушыў яго і не даваў сонца. Але дубок цягнуўся ўверх і стаў дужэйшы ў ценю Арэшніка. Прайшло сто год. Арэшнік даўно засох, а Дуб з жолуда ўзняўся да неба і раскінуў сваю карону на ўсе бакі.

## СЛЯПЫ І МАЛАКО

Адзін сляпы ад нараджэння спытаў бачачага:

— Якога колеру малако?

Бачачы адказаў:

— Колер малака такі, як папера белая.

Сляпы спытаў:

— А што, гэты колер таксама шапоча пад рукамі, як папера?

Бачачы сказаў:

— Не, ён белы, як мука белая.

Сляпы спытаў:

— А што, ён такі ж мяккі і сыпкі, як і мука?

Бачачы сказаў:

— Не, ён проста белы, як заяц-бяляк.

Сляпы спытаў:

— Што, ён пушысты і мяккі, як заяц?

Бачачы сказаў:

— Не, белы колер такі ж, як снег?

Сляпы спытаў:

— Дык што, ён такі халодны, як снег?

І колькі прыкладаў не прыводзіў бачачы, сляпы не мог зразумець, які бывае белы колер малака.

**Мікола Хведаровіч**

# ПАКЛІКАЎ ВЕРАСЕНЬ

Учадзеў бор сасновы
Ад пахкіх верасоў,
І не чуваць тут болей
Дзіцячых галасоў.

Прыйшла за цёплым летам
Асенняя пара,
Застаўся толькі попел
Ад нашага кастра.

Вось тут не раз бывалі
Вясёлыя сябры:
Паэты, музыканты —
На ўсе рукі майстры.

Мінуў гарачы жнівень,
І верасень прыйшоў.
Мы зноў сустрэлі ў школе
Сваіх таварышоў.

Вясёлых, загарэлых
Паклікаў на ўрок
Такі для ўсіх знаёмы,
Наш ветлівы званок.



М. Танк

# СОН НАД НЁМАНАМ

I

*Аднойчы Хрыстафор Калумб*
*Прыйшоў і кажа: — Браце,*
*Ты, бачу, плесняю аброс,*
*Заседзеўшыся ў хаце.*

*А я цябе тры дні шукаў*
*Па ўсіх дамах начлежных,*
*Па ўсіх піўных і караблях,*
*Гандлёвым узбярэжжы.*

*Мне трэба падабраць людзей,*
*Якім на гэтым свеце*
*Усё роўна, дзе грудзьмі глытаць*
*Марскі ахрыплы вецер;*

*Якім дакучылі сябры*
*І крэдыторы ў месце,*
*І стражнікі, і гандляры,*
*І Свет Стары нарэшце.*

*Хачу я новы шлях знайсці*
*У Індыю на шчасце.*
*І нат падрыхтаваў ужо*
*Вандроўніцкія снасці.*

*І нат у трум я закаціў*
*З паўсотні бочак рому,*
*Каб весялей было плысці*
*Па хвалях невядомых.*

*Дала мне каралева ліст,*
*Дала мне каравелы... —*
*Яшчэ не верыў я, але*
*Быў подпіс Ізабелы.*

*Яшчэ не верыў я, але*
*Руку падаў на згоду*
*І кубак разам з ім падняў*
*За дзіўныя прыгоды.*

2

*Мы штормаў і дзён не лічылі.*
*Паўдзённае сонца агнём*
*Нас, як галаўню, апаліла*
*І высушыла нашы жылы,*
*Як рэі, з якімі пяём.*

*Пяём мы аб ветры крылатым,*
*Аб тым, што мінула даўно,*
*Аб тым, як плылі арганаўты,*
*Шукаць залатое руно.*

*Спеў слухаюць рыбы і мора,*
*Вандроўныя хмары ўдалі,*
*Зусім незнаёмыя зоры,*
*Зусім невядомыя горы*
*Нікім не адкрытай зямлі.*

*Калі ж мы ступілі на бераг —*
*Вітаць нас, адзін за другім,*
*Сышліся і птушкі, і звеоы,*
*І з цёмных пячораў багі.*

*Дзівіліся птушкі, што крылляў*
*У нас не было, як у іх;*
*А зверы — што мы гаварылі*
*На мове, якой гаманілі*
*Далёкія прашчуры іх.*

*Багі нас пыталі ў здзіўленні:*
*Хто будзем, адкуль мы прыйшлі*
*І дзе мы ад светастварэння*
*Да гэтага часу былі?*

*Усіх непакоіла, што нас*
*Прыгнала да іх берагоў:*
*Ці выпадку вецер шалёны,*
*Ці мара аб краі чароўным,*
*Ці вечная прага купцоў?*

*Мы ж цешыліся, як малыя,*
*Знайшоўшы прыстанішча зноў*

*І ветразі „Санта Марыя“*
*Алелі ад нашых кастроў.*

3

*Мінулі месяцы, гады.*
*Шмат хто радзімы нівы*
*Забыў у клопатах жыцця,*
*Ў пагоні за нажывай.*

*Адны па пушчах і лясах*
*Звяроў лавілі, білі,*
*Жвір вымывалі залаты*
*З залатаносных жылаў.*

*Другія за шмаццё, за ром,*
*За шкло, люстэркі, фарбы*
*Ў тубыльцаў і у іх багоў*
*Выманівалі скарбы.*

*А я згубіў пакой і сон,*
*Калі прыбоем сінім*
*Прынесла з бацькаўшчыны мне*
*Сасновую галіну.*

*Я паказаў яе сябрам,*
*Прыплыўшую з-пад Нёмна,*
*Але ніводзін з маракоў*
*Не мог сасны прыпомніць.*

*Я гаварыў, якой яна*
*Расце ў бары высокай, —*
*Але і Хрыстафор Калумб*
*Забыў пра край далёкі.*

*Тады я вырашыў адзін*
*Плысці да той хваіны,*
*Што прыцягнула да мяне*
*Праз акіян галіну.*

*Каб адшукаць яе ў бары*
*Ці на высокай кручы,*
*Прыпасці сэрцам да яе,*
*Да зелені гаючай.*

*Няхай прышчэпіць да ствала*
*Мяне з сваёй галінай,*
*Абмые ветрам і зарой*
*Наднёманскай краіны.*

4

*З чаўна, у якім збіраўся плыць,*
*Каб плыць хутчэй, усё я*
*Багацце выкінуў за борт*
*У глыб, на дно марское.*

*Там злісткі золата былі,*
*І перлы, і каралы —*
*Усё, што наскуплялі мы,*
*Што прагна назбіралі.*

**(Працяг на стар. 7)**






## ЯСТРАБ

Аднойчы брат прыйшоў са школы з кошыкам.

— Хадзі сюды! Пакажу нешта! — паклікаў ён мяне.

У кошыку сядзела вялікае пухнатае птушаня. Белае, як вата. Толькі вялікія вочы ды дзюба адразу кідаліся ў вочы.

— Савяня, ці што? — запытаў я.

— Ястраб!

Расказаў брат, што знайшоў яго на лясной паляне, а гнязда нідзе паблізу не было. Узлаваўся я на брата: навошта забраў птушаня з лесу?! А чым будзеш карміць? Чарвякамі! Ці ж гэта корм для ястраба?

Расставіў я пасткі на мышэй, пачаў паляваць на кратоў. Уся мая здабыча ішла на корм для Зоркага, так я назваў птушку. Ястраб хутка рос, апярыўся, рабіўся ўсё больш даверлівы, толькі вось на клічку сваю не адгукаўся. Але, відаць, ён усё-ткі яе ведаў.

У першым самастойным палёце з ім здарылася непрыемная гісторыя. На яго напалі ластаўкі. Яны, збіўшыся ў кучу, высока ўзнімаліся ў неба і адтуль кідаліся на маё птушаня. Ястраб разгубіўся, жаласна закрычаў і тут пачуў мой голас:

— Зоркі, сюды!

Ястраб, праследаваны ластаўкамі, кінуўся да мяне і сеў на працягнутую да яго руку. Потым вырашыў перабрацца ў больш бяспечнае месца — пад куртку, дзе часта грэўся, калі быў маленькі. Мінут пяць пасядзеў і пачаў выглядваць: ці не адляцелі ластаўкі?

Зноў і зноў выпускаў я Зоркага на прастор. Ён стаў адважнейшы, навучыўся лавіць мышэй. І аднойчы зусім знік.

З'явіўся праз два тыдні. Мама схапіла яго і пасадзіла ў вялікую клетку.

Аж да нашага прыходу білася птушка ў клетцы. Мы выпусцілі яе, далі мяса. Але Зоркі адляцеў і больш не вярнуўся. Пакрыўдзіла яго клетка. Нездарма ж гавораць, што ястраб — вольналюбівая птушка.

**Р. Аляксееў**



# САРОКА БЕЛАБОКА

## АДЗІНОКАЯ БАБУЛЯ

За сялом стаіць пад лесам
Хатка у зямлі глыбока.
У ёй жыве бабка Алеся,
Ў старасці да адзінока.

Мела двух сыноў і мужа,
Ды асталася адна.
Надавала гора дужа
Ёй праклятая вайна.

Адзін сын у партызанах,
Другі ў арміі змагаўся.
Муж, у Прусію загнаны,
Назаўсёды там астаўся.

„Дзе ж вы, дзеткі, муж каханы,
Дзе шукаць вас на вайне?..“
Ой, баляць у сэрцы раны!
Зноў Алеся у акне...

„Вось прыдуць яны дадому,
Пакарміць з дарогі трэба...“ —
І, забыўшыся пра стому,
Зноў рыхтуе дзежу хлеба...

* ✲ *

Вось, сябры мае і дзеткі...
Вы заходзьце да бабулі.
Занясіце часам кветкі,
Хай да сэрца вас прытуліць.

# ГУЛЬНІ

## ВАЗЬМІ СЦЯЖОК!

На пляцоўцы праводзяцца дзве паралельныя лініі на адлегласці 6-7 метраў. На лініі становяцца дзеці ў роўнай колькасці (па 5-8 чалавек). Кожны ігрок атрымлівае нумар І-шы, ІІ-гі, ІІІ-ці і г.д.

У цэнтры паміж лініямі стаіць вядучы са сцяжком у руках. Вядучы называе нейкі нумар. І дзеці з абодвух каманд з такім нумарам павінны падбегчы да вядучага і ўзяць сцяжок. Хто першы гэта зробіць, павінен бегчы да сваёй каманды і стаць за лінію, другі ігрок можа яго даганяць. Калі першы паспее перабегчы сваю лінію, то гэта каманда атрымлівае пункт. Так яны гуляюць, пакуль каманды не набяруць акрэсленую колькасць пунктаў.

(Працяг са стар. 5)

# Сон над Нёманом

*Адно да мачты прывязаў*
*Сасновую галіну,*
*Якая б мне дапамагла,*
*Шлях значыла ў краіну.*

*Аж да крыві мне грудзі, твар*
*Хвастаў віхор балюча,*
*Пакуль мой не разбіўся сон*
*З чаўном на нейкай кручы.*

*На кручы, на якой шумеў*
*Бор векавы, сасновы,*
*На кручы, над якой сінеў*
*Мой поўдзень верасневы.*



# Пазнаёмімся

СССР, 373208, Аз. ССР, г. Сумгаит, 8 микрорайон, дом 24а, кв. 18. Гребенщиковой Нелли. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

СССР, 373208, Аз. ССР, г. Сумгаит, 8 микрорайон, дом 16/27 а, кв. 48. Алику Петросяну. Хлопчык вучыцца ў другім класе. А яго старэйшы брат Карел — у шостым класе. Ён таксама хоча перапісвацца.

* ✲ *

СССР, 344080, г. Ростов н/Д, ул. Российская, дом 46, кв. 70. Шестериной Людмиле. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

Мірэк Сянкевіч і Віталіс Кіндзюк, вучні восьмага класа, в. Рыбакі, кал. Грамотнае, пошта 17-210 Нараў, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, Аз. ССР, г. Сумгаит, 8 микрорайон, дом 27, кв. 33. Сергей Осман. Хлопчык вучыцца ў шостым класе.

## АДГАДАНКА

**Прыгожы малюнак атрымаўся ў зайца. Але што ж — „Зорка“ не мае колераў, каб перадаць усю прыгажосць намалёванага. Пацешце зайца і расфарбуйце яго карціну каляровымі алоўкамі або фламастрамі. За самы прыгожы малюнак „зорчына“ ўзнагарода.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950** Białystok ul. Wesołowskiego 1